# Голас Радзімы

№ 45 (2135)
9 лістапада 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**ЧАЛАВЕЧЫЯ АРЫЕНЦІРЫ У ГАСПАДАРЧАЙ РЭФОРМЕ**

(«Справы замест слоў»)
Стар. 3

**ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЧЫТАЕ ПА-РУСКУ**

(«Панорама перестройки»)
Стар. 5

**ПОГЛЯД ПІСЬМЕННІКА НА ПРАБЛЕМЫ КУЛЬТУРЫ**

(«Ці ўнясём сваю лепту!»)
Стар. 6

**На высокім мармуровым пастаменце ў цэнтры гарадскога пасёлка Дзятлава стаіць помнік слаўнаму сыну беларускага народа, змагару за яго свабоду і шчасце, выдатнаму вучонаму Ігнату Дварчаніну. Адкрыццё помніка адбылося цёплым кастрычніцкім днём і было прымеркавана да святкавання на Дзятлаўшчыне 50-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з Савецкай Беларуссю. На мітынгу прысутнічалі вучні і паплечнікі Ігната Дварчаніна, сваякі, людзі, якія з ім сустракаліся. Прыехаў і аўтар помніка, беларускі скульптар Уладзімір Лятун. (Рэпартаж са свята ў Дзятлаве змешчаны на 4-й стар.).**

РАСШЫРЭННЕ ПРАВОЎ

## У ІНТАРЭСАХ РЭСПУБЛІКІ

У Мінску знаходзіліся кандыдаты ў члены ЦК КПСС намеснік міністра замежных спраў СССР В. Нікіфараў і загадчык аддзела па саюзных рэспубліках МЗС СССР Ю. Купляков. У ходзе гутарак у ЦК КП Беларусі, Савеце Міністраў Беларускай ССР і МЗС БССР адбыўся абмен думкамі па шырокаму колу пытанняў, звязаных з адным з важных напрамкаў у дзейнасці МЗС Саюза ССР — работай па забеспячэнню правоў і інтарэсаў саюзных рэспублік. Разглядаліся пытанні ўзмацнення ўкладу Беларусі ў развіццё палітычных, эканамічных і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі, далейшай актывізацыі яе работы ў міжнародных арганізацыях сістэмы ААН, выкарыстання іх магчымасцей для садзейнічання ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Былі абмеркаваны таксама магчымыя шляхі больш эфектыўнага падключэння МЗС рэспублікі да знешнепалітычных мерапрыемстваў Саюза, у першую чаргу да тых, якія маюць для яе асаблівую цікавасць.

В. Нікіфараў быў прыняты другім сакратаром ЦК КПБ М. Ігруновым.

У САВЕЦКІМ ДЗІЦЯЧЫМ ФОНДЗЕ

## ВЫЯЗНЫ ПЛЕНУМ

Першы выязны пленум праўлення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна завяршыў сваю работу ў Мінску. Прааналізаваны вынікі дзейнасці фонду і яго аддзяленняў за год, абмеркавана і прынята праграма «Дзеці Чарнобыля». Яна ўсесаюзная і разлічана на далёкую перспектыву: трэба дайсці да лёсу кожнага дзіцяці, якога закранула чарнобыльская бяда. Яго здароўе, вучоба, адпачынак, паўнацэннае харчаванне і маральны стан — усё гэта дзяржаўны клопат.

Удзельнікі пленума разам вырашылі, што канкрэтна можна зрабіць для дзяцей з паражоных раёнаў. Дарэчы, СДФ збірае грошы на рахунак № 707 з пазнакай «Дзеці Чарнобыля». Сродкі з гэтага рахунку пойдуць на набыццё сучаснага медыцынскага абсталявання, на арганізацыю вытворчасці чыстых прадуктаў, на аказанне дзецям розных відаў дапамогі і льгот.

Перад пачаткам пленума група народных дэпутатаў СССР, якія прадстаўляюць інтарэсы дзяцінства у Вярхоўным Савеце краіны, пабывала ў шэрагу раёнаў Гомельскай вобласці.

ЭКАЛОГІЯ

## ПРАДПРЫЕМСТВА-САНІТАР

Звычайна, калі ўводзілася новае прадпрыемства, гэта быў яшчэ адзін, чарговы ўдар па экалогіі. Новая вытворчасць, якую вырашана стварыць пад Мінскам, наадварот, заклікана ахоўваць прыроду.

Гэта будзе своеасаблівае прадпрыемства-санітар, або, дакладней, вытворча-экалагічнае прадпрыемства па перапрацоўцы ртутных лямпаў (дзённага святла).

У рэспубліцы штогод выкідваецца каля 4 мільёнаў штук адпрацаваўшых сваё люмінесцэнтных лямпаў. Пры гэтым менавіта выкідваюцца куды папала, у выніку чаго ртуць трапляе ў паветра, ваду, глебу, а з цягам часу і ў арганізм чалавека. А ртуць — вельмі шкодны для яго метал. Таму праблема утылізацыі адходаў, якія ўтрымліваюць ртуць — немалаважная.

ТАВАРЫ ДЛЯ НАРОДА

## ЦЭНЫ ЗНІЖАНЫ

Рэдкае па цяперашнім часе рашэнне прынята на гомельскім заводзе «Цэнтраліт». Яго спецыялісты больш чым у два разы ў параўнанні з ранейшымі мадэлямі знізілі цэны на новыя арыгінальныя гарнітуры для пярэдніх пакояў. Выпуск такіх набораў пачаўся ў цэху тавараў народнага спажывання прадпрыемства.

Зусім не ад падзення попыту знізілі цэны на прадукцыю завадчане. І ранейшыя іх гарнітуры ідуць нарасхват. Але ж не кожны можа заплаціць пяцьсот рублёў, каб набыць іх. Таму і вырашылі не выкарыстоўваць у аздабленні мэблі дарагое чырвонае дрэва, іншыя дэфіцытныя матэрыялы, замянілі іх алюмініевымі дэталямі пад бронзу.

Для пашырэння выпуску і паляпшэння якасці прадукцыі на прадпрыемстве будуецца яшчэ адзін магутны цэх.

ПРЭМІІ

## СТВАРАЛЬНІКАМ МЕТРО

Арганічна ўпісалася ў аблічча Мінска метро. Строгае арыгінальнае афармленне станцый, зручнасці для пасажыраў спадабаліся многім мінчанам. За праектаванне і будаўніцтва другога ўчастка першай лініі Мінскага метрапалітэна са станцыйным комплексам «Усход» спецыялісты інстытута «Метрагіпратранс», упраўлення «Мінскметрабуд», шэрагу іншых арганізацый удастоены прэміі Савета Міністраў БССР 1989 года ў галіне будаўніцтва.

МУЗЕІ

## ДА ЮБІЛЕЮ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Першы ў Беларусі школьны музей вядомага гуманіста сярэдневякоўя Францыска Скарыны расчыніў для наведвальнікаў свае дзверы ў 54-й мінскай школе.

Зборам матэрыялаў для «друкарні» захапіліся ўсе вучні. І неўзабаве сабралі яго столькі, што стала ясна: трэба арганізоўваць музей. У класіфікацыі экспанатаў, большасць з якіх складаюць фотакопіі друкаваных работ Скарыны, размяшчэнні іх на стэндах школьнікам дапамагалі вядомыя ў рэспубліцы скарыназнаўцы Вячаслаў Чамярыцкі і Адам Мальдзіс. А мастацкае афармленне ўзяла на сябе тая ж група мастакоў на чале з Уладзімірам Берташам, што працавала над стварэннем раздзела аб Францыску Скарыне ў Беларускім краязнаўчым музеі.

На ўрачыстым адкрыцці школьнікі-экскурсаводы пазнаёмілі сваіх першых наведвальнікаў з біяграфіяй вялікага гуманіста, творчасцю Скарыны і яго паплечнікаў. Затым па сцэнарыю драматурга Аляксандра Петрашкевіча старшакласнікі сыгралі для гасцей сцэнкі з жыцця беларускага першадрукара.

Новы школьны музей, які адкрыўся напярэдадні аб'яўленага ЮНЕСКА святкавання 500-годдзя Францыска Скарыны, стаў няхай невялікім, але добрым укладам у падрыхтоўку юбілею нашага вялікага земляка.

ПАМЯЦЬ





**У Курапатах пад Мінскам адбыўся масавы мітынг у памяць аб бязвінна загінуўшых у час рэпрэсій 30-х, 40-х і пачатку 50-х гадоў жыхарах Беларусі. Яго ініцыятарамі сталі грамадскія рухі, якія ўзніклі ў апошнія гады ў рэспубліцы.**

**На мітынгу выступілі вядомыя дзеячы беларускай культуры і мастацтва, тыя, хто прайшоў дарогай пакут, жыхары вёскі Цна-Ёдкава — відавочцы трагічных падзей у перадваенных Курапатах. Яны з болем і горыччу вярталіся ў сваіх прамовах да чорных старонак гісторыі, заклікалі зрабіць усё для таго, каб беззаконнасць, парушэнне элементарных чалавечых правоў больш не паўтарыліся.**

**Адбылося богаслужэнне ў памяць ахвяр рэпрэсій.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час мітынгу.**

ДАГАВОР ВЫКОНВАЕЦЦА

## ЗНІШЧАНЫ РАКЕТЫ

27 кастрычніка ля пасёлка Станькава, што за пяцьдзесят кіламетраў ад Мінска, і каля станцыі Сарыязек, якая знаходзіцца ў Казахстане, ліквідаваны адзін з відаў ядзернага ўзбраення — апошнія ракеты АТР-23 (СС-23) меншай дальнасці. Гэтым самым Савецкі Саюз выканаў дагавор па РМД.

**На мітынгу ў Станькаве гэту падзею пракаменціраваў начальнік Нацыянальнага цэнтра па змяншэнню ядзернай бяспекі генерал-маёр В. МЯДЗВЕДЗЕЎ:**

— Сёння першы важны этап савецка-амерыканскага Дагавора па ракетах сярэдняга і малога радыуса дзеяння ажыццёўлены! За паўтара года напружанай працы мы правялі на тэрыторыі Злучаных Штатаў каля ста інспекцый і амаль трыста — амерыканскі бок у СССР. Розніца ў колькасці тлумачыцца тым, што ў нас па дагавору больш аб'ектаў, больш было саміх ракет такога класа. За гэты час і мы, і нашы заакіянскія калегі змаглі пераканацца, што форма інспекцый цалкам дзеяздольная, дазваляе бакам упэўніцца ў дакладнасці і правільнасці выканання абавязацельстваў.

Гэтая падзея не азначае, што савецкія і амерыканскія інспектары застануцца без працы. Пакуль ліквідаваны толькі ракеты з дальнасцю дзеяння да тысячы кіламетраў. Паралельна вядзецца знішчэнне ракет, якія дзейнічаюць у радыусе ад адной да пяці тысяч кіламетраў. На сёння сума ліквідаваных ракет абодвух класаў складае 1 440 савецкіх і 385 — амерыканскіх. У адносінах да агульнага аб'ёму, прадугледжанага дагаворам, гэта выглядае так: Савецкі Саюз — 78 працэнтаў, Злучаныя Штаты — 40 працэнтаў. Наперадзе ў нас яшчэ паўтара года сумеснай работы. І магу з упэўненасцю сказаць, што дагавор будзе выкананы ў поўным аб'ёме і ва ўказаныя тэрміны.

**Журналісты, якія прысутнічалі пры ліквідацыі ракет у Станькаве, звярнуліся да начальніка інспекцыйнай групы ЗША Томаса БРОКА з просьбай падзяліцца сваімі ўражаннямі наконт арганізацыі працэсу ліквідацыі ракет.**

— Так,— адказаў ён.— Усё ідзе добра. Многа калег за паўтара года змянілася тут — мы ж працуем па чатыры тыдні. Савецкія афіцэры заўсёды добразычлівыя і ўважлівыя да нас. За ўвесь гэты час, наколькі я ведаю, не толькі тут, але і ў іншых месцах не было ніводнага сур'ёзнага інцыдэнту. Мы атрымліваем вялікае задавальненне ад магчымасці ўдзельнічаць у дасягненні яшчэ аднаго гістарычнай вехі. Удвая прыемна, што менавіта нам выпала інспектаваць знішчэнне апошняй савецкай пускавой установкі для ракет малой дальнасці. Мы дзякуем нашым гаспадарам за гасціннасць і высока цэнім магчымасць разам рухацца да міру.

Ракеты ліквідаваны. Знішчана апошняя пускавая ўстаноўка. А баявая тэхніка будзе прымяняцца ў народнай гаспадарцы. Як выкарыстоўваюцца сёння ўсе машыны комплексу АТР-23. Ужо паступілі заяўкі ад пакупнікоў.

Савецкі Саюз яшчэ раз прадэманстраваў усяму свету нязменны курс сваёй палітыкі, накіраваны на раззбраенне і ўмацаванне міру на нашай зямлі.

## ПЕРАБУДОВА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРАВІНЦЫІ

# СПРАВЫ ЗАМЕСТ СЛОЎ

Існуе думка, што пра тэмпы нашай перабудовы можна меркаваць па геаграфічнай карце: чым далей ад Масквы, ад рэспубліканскіх сталіц, тым больш кансерватыўнае кіраўніцтва, больш маруднае абнаўленне і тым менш перамен. Ці так гэта? Не, ва ўсякім разе не ўсюды так.

Пасярод беларускага Палесся размешчаны 120-тысячны горад Пінск, раённы цэнтр Брэсцкай вобласці, даволі далёкі і ад Брэста—абласнога цэнтра, і ад Мінска — беларускай сталіцы. Што тут адразу кідаецца ў вочы прыезджым, добра знаёмым з недахопам тых ці іншых тавараў і паслуг? На прылаўках магазінаў у дастатку малочныя прадукты, гародніна, мяса, а таксама ёсць неабходныя прамысловыя вырабы шырокага спажывання, пакуль яшчэ дэфіцытныя ў многіх правінцыяльных гарадах. Чэргі бываюць, але не занадта доўгія. Не даводзіцца выстойваць у іх, каб атрымаць элементарныя бытавыя паслугі, трапіць на прыём да ўрача ў паліклініцы. Няма праблем з уладкаваннем дзіцяці ў садзік...

Пачынаю з гэтага таму, што савецкія людзі, падтрымліваючы перабудову, пры ўсіх цяжкасцях, якія нялёгка адолець у кароткі тэрмін, чакаюць ад яе паляпшэння перш за ўсё ў паўсядзённым сваім жыцці. І вельмі важныя для эканомікі менавіта сацыяльныя, чалавечыя арыенціры, вылучаныя сённяшняй гаспадарчай рэформай. Праўда, пра іх многа гаварылася і раней, у перыяд застою. Але разрыў паміж словам і справай было не пераадолець. Сродкі ўкладваліся галоўным чынам у вытворчасць прадукцыі, якая не вельмі патрэбна была насельніцтву. А на сацыяльныя мэты заставалася мала.

Зрэшты, на гонар тагачасным пінскім кіраўнікам, яны актыўна карэкціравалі такую палітыку, настойліва патрабуючы ад міністэрстваў, ведамстваў, якія будавалі тут свае заводы, раскашэльвацца на будаўніцтва жылля, паліклінік і бальніц, дзіцячых устаноў, школ і да т. п. Лягчэй стала абгрунтоўваць такі падыход у апошнія гады, калі прыкметна ўзрасла ўвага да запатрабаванняў народа. І сёння ў Пінску многія сацыяльныя праблемы не такія вострыя, як у некаторых іншых правінцыяльных гарадах.

«Жыць, вядома, можна, але асабліва радавацца пакуль яшчэ рана», — сказаў мне таксіст Юрый Кузняцоў. Бацька дваіх дзяцей, ён ужо шэсць гадоў чакае той радаснай хвіліны, калі атрымае ключы ад уласнай кватэры. І такіх сямей, якія падоўгу жывуць у бацькоўскім доме, а то і туляцца ў інтэрнаце, чакаючы чаргі на атрыманне кватэры, у Пінску каля 10 тысяч — амаль кожная пятая. Юрый лічыць, што гэтая праблема не толькі сацыяльная, але і палітычная. Ад яе вырашэння залежыць аўтарытэт Камуністычнай партыі, якая стала ініцыятарам і арганізатарам перабудовы.

— Гэты хлопец мае рацыю,— гаворыць першы сакратар гарадскога камітэта партыі 44-гадовы Міхаіл Галавешкін, пачуўшы пра маю гутарку з таксістам. — Цяпер людзі мяркуюць аб нашай дзейнасці і перабудове ўвогуле не па шырокавяшчальных заявах, а па канкрэтных выніках, па ўзроўню свайго дабрабыту. Жыллёвая праблема — адна з самых сур'ёзных, бадай, найвастрэйшая. Яна не з лёгкіх, але калі мы грунтоўна ўзяліся за яе, з'явіліся абнадзейваючыя планы на будучыню. Пераломным стаў 1987 год, калі ў Пінску было здадзена 1 200 кватэр, у 1988 годзе —1 500, а раней ніколі не будавалася больш тысячы ў год. Набліжаемся да ўзроўню 2 000 кватэр штогод. Спадзяёмся да 2000 года забяспечыць кожную сям'ю асобнай кватэрай ці домам.



— Рост цешыць, але гэта, трэба думаць, заслуга будаўнікоў. А ў чым тут роля партыі, гарадскога камітэта?

— Без нашага ўдзелу справа, відаць, не зрушылася б з мёртвага пункту. Дзяржаўных капітальных укладанняў яшчэ вельмі мала, каб паскорыць жыллёвы канвеер. Для іх практычнага асваення трэба яшчэ многае — ад будматэрыялаў да саміх будаўнікоў. Горад павінен быў знайсці і выкарыстаць унутраныя рэзервы, каб фарсіраваць рашэнне важнай задачы. Наш партыйны камітэт стаў своеасаблівым мазгавым цэнтрам, які ў дэталях прадумваў пытанне, як хутчэй і лепш дасягнуць мэты. У цесным узаемадзеянні з гарадскім Саветам і мясцовымі прадпрыемствамі, абапіраючыся, натуральна, на дэмаграфічны аналіз і прапановы гараджан, мы распрацавалі праграму «Жыллё». Грамадская думка паставілася да яе спачатку скептычна. Але цяпер, калі праграма ажыццяўляецца паспяхова, людзі вераць нам і дапамагаюць у яе рэалізацыі.

— Адкуль жа з'явіліся ў Пінску дадатковыя кватэры?

— Галоўным чынам, дзякуючы развіццю так званага гаспадарчага спосабу будаўніцтва. Прамысловыя прадпрыемствы горада пачалі самі паскорана ўзводзіць жылыя дамы для сваіх работнікаў. На першы погляд, было б прасцей перадаць заказ мясцоваму будаўнічаму трэсту. Але той ледзь паспявае асвойваць цэнтралізаваныя капітальныя ўкладанні. Гарком партыі пераканаў адміністрацыю прадпрыемстваў узяць на сябе дадатковы груз. Гэта было нялёгка. Таму што цэглу, цэмент і ўсё іншае ў вялікай колькасці ім даводзіцца даставаць нярэдка па-за горадам, ледзь ці не па ўсёй краіне: выменьваць на сваю прадукцыю там, дзе попыт на яе вялікі і дзеля яе могуць дадатковa вырабіць патрэбныя нам будматэрыялы. Цяжкія клопаты. Але іншага шляху не было.

— А як вы пераконвалі адміністрацыю? Па-даўнейшаму камандамі?

— Не, просьбамі, тлумачэннямі. Акрамя таго, праз першічныя партыйныя арганізацыі давялі сутнасць задачы да рабочых, якія зацікаўлены ў ажыццяўленні нашай праграмы. Націск знізу дапамог разварушыць кіраўнікоў. Прадпрыемствы расшырылі будаўніцтва жылля. І яшчэ: уклалі свае грошы ў рэканструкцыю цагельнага завода. Яго магутнасці неўзабаве падвояцца. Да таго ж узводзіцца домабудаўнічы камбінат. І рана ці позна прадпрыемствам ужо не трэба будзе займацца не сваёй справай.

— Прабачце, а ці сваёй справай заняты ваш гарком?

— Безумоўна, партыя не павінна ні падмяняць Саветы, ні тым больш быць падобнай на будаў[illegible]-мантажнае ці архітэктурна [illegible]іровачнае ўпраўленне. Але яна ж не можа быць і нечым накшталт асветніцкай установы, дыскусійнага клуба, дзе канкрэтныя і хвалюючыя праблемы грамадства патаналі б у [illegible] мовах.

Наша дзейнасць павінна спрыяць хутчэйшаму і эфектыўнаму вырашэнню жыццёва важных задач у імя чалавека, на карысць асобы і грамадства, пераадоленню ўсяго, што гэтаму перашкаджае. І гарком партыі не мог не падключыцца ў рамках сваёй кампетэнцыі да такіх неадкладных спраў, як забеспячэнне насельніцтва жыллём. Намячаючы і рэалізуючы праграму, дабіліся згоды пачакаць з будаўніцтвам некаторых прамысловых аб'ектаў. Адмовіліся ад намеру ўзвесці побач з будынкам гаркома вялікую канферэнц-залу. Усяляк сталі заахвочваць будаўніцтва індывідуальнага жылля—пад яго за два апошнія гады выдзелена каля 1 500 зямельных участкаў — столькі ж, колькі за папярэднія 20 гадоў. І за ўсім гэтым не націск, не каманда, а метады палітычнага ўплыву. Карацей, — сіла пераканання, а не перакананне сілай.

**Ігар ГЕРМЯНЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ: вуліца Леніна ў Пінску. Тут добра захаваліся гістарычныя помнікі; экскурсія ў літаратурны музей Аляксандра Блока; турыстычны цеплаход «Віцебск» на рацэ Піне.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**





ДОСЛЕДНАЯ ПАРТЫЯ ДАЗІМЕТРАЎ

# НА ВЫПРАБАВАННЯХ «САСНА»

Першая доследная партыя партатыўных індывідуальных дазіметраў «Сасна» выраблена беларускім прадпрыемствам «Экран». Пасля выпрабаванняў у раёнах, якія падверглiся радыеактыўнаму ўздзеянню, пачнецца іх серыйная вытворчасць.

У прэзідыуме Акадэміі навук Беларусі давялося ўбачыць выраб пад парадкавым нумарам 4. На прадаўгаватай чорнай пластмасавай каробачцы, якая ўмяшчаецца на далоні, звонку размешчаны тры кнопкі, табло на вадкіх крышталях для адлюстравання паказанняў, накшталт таго, што знаёма кожнаму па электронных гадзінніках. Віцэ-прэзідэнт АН БССР А. Сцепаненка націснуў адну з кнопак, і праз секунд дваццаць пачуўся зумер, які сведчыў аб тым, што вымярэнне закончана, а на экране з'явілася значэнне знешняга альфа-выпраменьвання — 0,014 мілірэнтгена ў гадзіну. Гэта адпавядае нармальнаму фону. З адваротнага боку прыбора ёсць датчык для вымярэння бэта-выпраменьвання, што неабходна для праверкі прадуктаў харчавання, адзення і г. д. Дастаткова будзе ўзяць прыбор, напрыклад, у лес, і ён гукавым сігналам сам папярэдзіць чалавека, які ўвойдзе ў зону, дзе радыеактыўнае выпраменьванне перавышае норму.

— У свой час быў аб'яўлены конкурс на лепшы дазіметр індывідуальнага карыстання, на які была прадстаўлена 41 распрацоўка, — расказвае Аляксандр Сцепаненка. — Тры з іх, у тым ліку «Сасну», створаную ў Інстытуце ядзернай энергетыкі АН БССР, журы адзначыла як лепшыя. Пасля дапрацоўкі «Сасна» была рэкамендавана да вытворчасці. Нельга не адзначыць энтузіязм, з якім вырашалі гэтую задачу спецыялісты прадпрыемства «Экран», вытворчага аб'яднання «Інтэграл», Беларускага дзяржуніверсітэта і Мінскага радыётэхнічнага інстытута, акадэміі. Давялося пераадолець мноства праблем, у тым ліку звязаных з набыццём шэрагу важных камплектуючых вырабаў.

Ужо ў наступным годзе мяркуецца вырабіць 10 тысяч такіх прыбораў. Кошт кожнага складзе каля 80 рублёў. Відавочна, каб падобную «цацку» мела кожная сям'я, якая жыве ў неспрыяльным у радыеактыўных адносінах раёне, падзяліць цяжар пакупкі павінны мясцовыя органы, прамысловыя прадпрыемствы.

Варта адзначыць, што прыбор быў распрацаваны і падрыхтаваны да вытворчасці ў рэкордна кароткія тэрміны. Творчы калектыў, на рахунку якога гэты поспех, працягне работу над стварэннем цэлай гамы дазіметраў. Не чакаючы, пакуль такія неабходныя прыборы айчыннай вытворчасці з'явяцца ў дастатку, беларускія вучоныя робяць усе намаганні, каб наладзіць і іншыя формы строгага кантролю за паражонай тэрыторыяй.

**У. БІБІКАЎ.**

 № 45 (2135), 9 лістапада 1989 г.

## СВЯТА НА ДЗЯТЛАЎШЧЫНЕ





# ГЕРОІ ЗАСТАЮЦЦА Ў ПАМЯЦІ НАРОДА

Лёс, на шчасце, дорыць яшчэ паездкі, калі і дарога, і спадарожнікі, і сама нагода, з якой ладзіцца падарожжа, надоўга пакідаюць харошы ўспамін, адчуванне нечага сапраўднага і трывалага. Такой, бадай, была паездка на Дзятлаўшчыну, дзе ў кастрычніцкія дні святкавалася 50-годдзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай.

У групу пісьменнікаў, запрошаных на свята, разам з якімі ехала і я, уваходзілі Янка Брыль, Уладзімір Калеснік і Вячаслаў Адамчык. Усе трое з былой Заходняй Беларусі—з-пад Міра, Карэліч і Наваельні. Янка Брыль і Уладзімір Калеснік у гады вайны і ваявалі ў гэтых мясцінах. Успамінаў, і даваенных, і ваенных, зразумела, хапіла б не на адну доўгую дарогу ў Дзятлава. Успамінаў не заўсёды вясёлых, але авеяных рамантыкай маладосці і таму асабліва дарагіх...

У Дзятлаве ў той дзень, акрамя пісьменніцкай групы, было вельмі многа гасцей. Ветэраны КПЗБ, ветэраны вайны, цяпер пенсіянеры, а ў мінулым актыўныя барацьбіты за свабоду свайго народа, Радзімы, якая доўгія гады пакутавала пад прыгнётам тагачаснай Польшчы. Фатаграфіі многіх з іх сёння знаходзяцца пад шклом у Музеі народнай славы. А музей у свой час ствараў Міхась Петрыкевіч, асоба ў Дзятлаве амаль легендарная. Актыўны член КПЗБ, ён добра ведаў падзеі, што адбываліся ў яго родных мясцінах і да 1939 года, і ў апошнюю вайну, па крупінках збіраў экспанаты, дакументы, фотаздымкі, каб увекавечыць памяць сяброў па зброі, каб моладзь выхоўвалася на лепшых прыкладах, справах папярэдніх пакаленняў. Гэта павага і пашана да старых людзей, якія ўсе сілы, здароўе, жыццё аддалі барацьбе, адчувалася на кожным кроку. Клопат пра іх быў добрым і душэўным, як і мае быць да папярэднікаў, якія закладвалі падмурак сённяшняй Бацькаўшчыны.

У наш час стала модным наракаць на кіраўнікоў, называць іх бюракратамі, абвінавачваць у каманднa-адміністрацыйных метадах кіравання. Мне падалося, што такія абвінавачанні не тычацца першага сакратара Дзятлаўскага райкома КПБ Я. Вырко, старшыні выканкома райсавета народных дэпутатаў М. Касцюка, другога сакратара райкома прывабнай жанчыны Сабіны Брузго. Павага і клопат пра ветэранаў пачыналіся з іх; адданасць зямлі, на якой жывуць, шанаванне гісторыі і культуры народа, з якога выйшлі, праяўляліся і ў іх добрай беларускай гаворцы, і ў добрых справах. Добрай справай мясцовых кіраўнікоў з'явілася адкрыццё ў гэты дзень помніка рэвалюцыянеру, вучонаму, літаратару, настаўніку, выдатнаму беларусу Ігнату Дварчаніну. Помнік прадстаўніку творчай інтэлігенцыі, які бязвінна загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій, першы ў нас у рэспубліцы. І на сённяшні дзень ён стаў своеасаблівым сімвалам добрых перамен, што адбываюцца ў савецкім грамадстве. Адкрыццё яго не выпадкова было прымеркавана да 50-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі. Сярод гасцей, якія прыехалі на свята з іншых гарадоў ці прыйшлі з навакольных вёсак, было нямала людзей, якія памяталі Ігната Сымонавіча, любілі яго як настаўніка ці разам змагаліся ў падполлі. Сваім жыццём ён уплываў на жыццёвы шлях іншых, дапамагаў словам і справамі, не ведаў страху, ахвяраваў кар'ерай вучонага дзеля рэвалюцыйнай барацьбы. На ўрачыстасць прыехалі пляменнік і пляменніцы Ігната Дварчаніна. У горы і скрусе гаварылі яны пра тое, што не ведаюць, дзе магіла дзядзькі і куды несці кветкі. Цяпер такое месца ёсць. Яно ў цэнтры Дзятлава, на плошчы імя 17 Верасня, дзе на высокі пастамент узняты бронзавы бюст Ігната Дварчаніна.

— Помнік будзе стаяць сярод сваіх людзей,—сказаў, адкрываючы шматлюдны мітынг, Яўген Вырко,—дзеля шчасця якіх ён аддаваў свае сілы, талент, не пашкадаваў і жыцця.

Міхаіл Макулік быў вучнем Ігната Дварчаніна ў Віленскай беларускай гімназіі: «Мы захапляліся гэтым добрым і сціплым чалавекам, вучыліся па «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры», куды ўвайшлі лепшыя творы нашых пісьменнікаў». Міхаіл Георгіевіч расказаў, што Ігнат Дварчанін часта выступаў перад сялянамі, успомніў мітынг у сваёй роднай вёсцы Алекшыцы Бераставіцкага раёна ў жніўні 1930 года, дзе каля царквы сабралася некалькі тысяч чалавек. Былі там і паліцыянты, але людзі такой шчыльнай сцяной акружылі прамоўцу, што сарваць мітынг не ўдалося. Калі з Гродна прыехала падмога паліцыі, Ігнат Дварчанін глухімі сцежкамі ўжо прабіраўся да сваіх.

50-годдзе ўз'яднання і адкрыццё помніка І. Дварчаніну звязаў у адзінае цэлае сваім выступленнем на мітынгу Янка Брыль:

— Гэтыя 50—вялікая гістарычная дата,—сказаў пісьменнік.—Ім папярэднічалі 20 гадоў адарванасці ад маці-Радзімы, 20 гадоў змагання за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Народ стварае сваіх герояў, і яны назаўсёды застаюцца ў яго памяці. Такім героем быў і застаўся Ігнат Дварчанін. Можам толькі павіншаваць нашу цудоўную Дзятлаўшчыну, што тут будзе ўзвышацца помнік Ігнату Дварчаніну. Зроблена вялікая справа.

— Палякі прыгняталі нас, асімілявалі, не прызнавалі нават слова беларус, а называлі тутэйшымі,—горача, з болем гаварыў кампазітар Аляксандр Шыдлоўскі.—Мы задыхаліся ад беззямелля, у нас адабралі нашу мову і нашы песні. Мы вялі барацьбу за існаванне сваёй культуры, нацыі. У той цяжкі час мне давялося супрацоўнічаць з Ігнатам Дварчаніным. Ён быў цудоўным настаўнікам і чалавекам, выхоўваў у нас патрыятычныя пачуцці, любоў да роднай зямлі, да маці-Беларусі.

У той дзень ад ветэранаў давялося пачуць і горкія словы пра тое, што, на жаль, забываем мы часам пра вызваленчую місію, якую ў 1939 годзе выканала Чырвоная Армія, прыйшоўшы ў Заходнюю Беларусь. Павел Кавалеўскі ўспамінаў, як кветкамі, хлебам-соллю сустракалі яны чырвонаармейцаў, «выламаўшыся з Брэсцкай турмы. Мы былі шчаслівыя, што кроў наша не прапала дарма».



Сапраўды, знаёмячыся з сённяшнім гарадскім пасёлкам Дзятлава, разумееш, за што змагаліся Ігнат Дварчанін і яго паплечнікі. Ёсць тут і школы, і Палац культуры, і бібліятэкі, развіваецца прамысловасць і сельская гаспадарка. Паказалі нам будаўніцтва новага санаторыя «Радон», першая чарга якога хутка будзе здадзена. Мясціны ж вакол Дзятлава маляўнічыя, багатыя на радонавыя крыніцы, лекавыя гразі. Усё гэта спрыяе развіццю курортнай зоны вакол гарадскога пасёлка. Адпачываюць у санаторыях і мясцовыя жыхары, і хворыя з іншых рэгіёнаў рэспублікі.

На свяце было многа музыкі і песень. Для гасцей і дзятлаўчан у Палацы культуры адбыўся вялікі канцэрт. Выступалі фальклорныя калектывы, ансамблі, салісты. У іх выкананні гучала беларуская музыка, беларускія песні. Вечарам перад гасцямі выступаў ансамбль ветэранаў «Пралеска», якім кіруе былы франтавік Марыя Ільюшэнка. Гэтыя ўжо немаладыя, але нястомныя людзі зачаравалі ўсіх спевамі, бадзёрасцю і вясёласцю. Гасцей яны сустракалі і частавалі смачнымі духмянымі пірагамі.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ:** мітынг, прысвечаны адкрыццю помніка Ігнату Дварчаніну. Выступае пісьменнік Янка БРЫЛЬ; новы сад на ўспамін аб 50-годдзі ўз'яднання Заходняй Беларусі; ветэраны з кветкамі ідуць да помніка У. І. Леніну.

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

*СТРОИМ ПРАВОВОЕ ГОСУДАРСТВО*

# ЭМИГРАЦИЯ: ПРОБЛЕМЫ И ПУТИ ИХ РЕШЕНИЯ

**Проект нового законодательного акта о порядке выезда из нашей страны и въезда в нее предполагается представить на рассмотрение второй сессии Верховного Совета СССР.**

За прошлый год выехали 108 тысяч человек (вместе с детьми). В 1989 году эта цифра, судя по имеющимся сейчас данным, возрастет. Эти данные отражают сегодняшнюю тенденцию в эмиграции из СССР и новый подход к решению данной проблемы. Если же заглянуть в недавнее прошлое, то ретроспектива за десятилетие дает следующую картину. С 1979 года, когда из Советского Союза в капиталистические страны выехало 45 414 человек, количество эмигрантов сократилось в 1985 году до 2 468 человек. В социалистические страны выехало в эти годы соответственно 2 779 и 2 695 человек.

Здесь следует обратить внимание на то, что статистика, характеризующая эмиграционный процесс, отражает нарастание застойных тенденций в советском обществе, особенно в 1982—1985 годах. Именно по причинам застоя, несмотря на то, что СССР подписал и ратифицировал Международный пакт о гражданских и политических правах, позиция «выезд—въезд» не была приведена в соответствие с международными стандартами. Возникли такие категории лиц, как «отказники» или «невозвращенцы».

Начало преодолению негативных явлений положило вступление в силу с 1 января 1987 года дополнения к Положению о въезде и выезде из СССР. Они касаются не только взаимных поездок граждан по частным делам, но в известной мере расширили категорию лиц, которым разрешен выезд из СССР на постоянное жительство в другие страны.

Эмиграционному процессу способствовал установленный в настоящее время порядок, по которому для выезда из Советского Союза на постоянное жительство достаточно приглашения любого лица, проживающего за рубежом, или согласия иностранного государства на въезд в страну.

Проблемы «отказников» теперь практически не существует. В 1988 году число советских граждан, которым было отказано в выезде на постоянное или неопределенно длительное жительство в другие страны, составило 0,7 процента от числа выехавших советских граждан — как правило, в связи с осведомленностью о государственных секретах. В 1989 году отрицательные решения в общем числе рассмотренных обращений составляют лишь 0,15 процента.

Контроль за обоснованностью принимаемых органами МВД отрицательных решений осуществляет Комиссия Президиума Верховного Совета СССР по вопросам гражданства. За время ее работы (с 1987 года) ходатайства 556 человек (на август 1989 года) пересмотрены положительно, в 432 случаях отказ в выезде подтвержден.

Дальнейшей демократизации подвергнута процедура информирования о причинах отказа. По просьбам граждан ответ теперь дается в письменной форме со ссылкой на соответствующий пункт действующего Положения о въезде и выезде из СССР.

Постепенная ликвидация бюрократических барьеров, которые стояли на пути желающих эмигрировать из страны, уже упростила процедуру для выезда.

Тем не менее назрела необходимость изменить законоположения, ведомственные инструкции и всякого рода правила по вопросам выезда из СССР и въезда в СССР, чтобы привести их в полное соответствие с Основным законом страны и международными стандартами в области прав человека.

Следует иметь в виду, что Всеобщая декларация прав человека и пакты о правах человека, ратифицированные Советским Союзом, содержат ничем не ограниченное право выбора страны проживания. Разумеется, в тех случаях, когда выезд человека затруднен по соображениям государственной безопасности, компетентные органы власти имеют право отказать ему в выезде.

Необходимо отметить, что воссоединение с родственниками зачастую не является подлинной причиной эмиграции. Наличие родственников, проживающих за рубежом, иногда используется в качестве предлога для легальной эмиграции. К примеру, эмигранты, выезжающие по так называемой «израильской визе», покидают Советский Союз по соображениям экономического и социального порядка. Как об этом свидетельствуют факты, 80 процентов лиц еврейской национальности, выезжавших в Израиль, на деле поселяются в других странах, в частности в США. По официальным данным правительства Израиля, в 1988 году всего 1 428 из 20 082 евреев, которые уехали из Советского Союза, прибыли в страну.

Следует отметить, что выезжающие из СССР в некоторых странах встречают негативное к себе отношение. В ФРГ в 1989 году бундестаг принял закон, лишающий лиц немецкой национальности из Восточной Европы возможности селиться по приезде в ФРГ там, где они захотят. Теперь им как минимум на два года будет предписываться место поселения. На июнь 1989 года 26 тысяч советских граждан, в основном евреев и армян, ждали разрешения на въезд в Соединенные Штаты. Из них в этом году 7 тысяч уже выехали за пределы СССР и в настоящее время в ожидании въездных виз живут во временных поселках в районе Рима. К тому же ждать теперь приходится долго — от одного года до двух лет, потому что международное право не предусматривает обязательств государств принимать эмигрантов.

Видимо, будет разумным разрешать выезд при отсутствии к тому законных препятствий в том случае, когда имеется въездная виза той страны, куда намерен эмигрировать тот или иной советский гражданин, а не просто в «никуда». Дело в том, что в этом году очень многие советские граждане, получившие право на выезд, не могут его реализовать ввиду отсутствия въездных виз.

Многие вопросы в области эмиграции еще требуют своего решения. Один из них — необходимость изменения отношения Советского государства к соотечественникам. Если человек по тем или иным причинам эмигрировал из страны, но не участвует во враждебных нам действиях, если он способен помочь нашему общему делу, сохранил чувство Родины, мы должны видеть в нем соотечественника в полном и хорошем смысле слова. На смену стереотипной раскладке на «своих» и «чужих» приходят общечеловеческие ценности.

**Леонид АНИСИМОВ, кандидат юридических наук, консультант МИД СССР.**

*ТОЧКА ЗРЕНИЯ УЧЕНОГО*

# БУДУЩЕЕ СОВЕТСКОЙ ФЕДЕРАЦИИ

Проблемы межнациональных отношений в СССР вышли на авансцену общественной жизни, стали предметом озабоченности и тревоги правительства. В ряде регионов на этнической почве вспыхивают конфликты. Нередки акты насилия, жертвы. Причин этому много, в каждой республике они свои, но, как считает большинство специалистов, вряд ли можно их устранить, если не преобразовать радикально советскую федерацию, не обеспечить суверенитета республик, их права самостоятельно решать свои государственные, экономические и общественные проблемы.

Об этом сказано и в принятой 20 сентября Пленумом ЦК КПСС партийной платформе «Национальная политика в современных условиях», которая рассматривается в качестве основы для разработки конкретных законоположений в этой области на нынешней сессии Верховного Совета СССР и на Съезде народных депутатов весной будущего года.

Платформу уже назвали новаторским документом, имея в виду, в частности, что в ней разработана новая трактовка принципа самоопределения народов, которая не сводится только к праву на государственное отделение, а рассматривает самоопределение как многоплановый процесс утверждения политической и экономической самостоятельности народа, открывающей широкие возможности для развития его культуры, языка, утверждения национального достоинства. Новая трактовка не исключает и право наций на выход из СССР и образование собственного государства. Для обеспечения этого права уже начата разработка механизма и процедуры его реализации, но такой шаг все-таки надо считать крайностью, ибо цели самоопределения народа могут быть решены посредством самоуправления, через обеспечение суверенитета в рамках федеративного Союза.

Именно проблемам взаимоотношений между республиками и Союзом, исчерпывающего определения прав Союза, которые республики готовы ему уступить, соотношению законов республик и Союза партийная платформа уделяет центральное место. Верховному Совету СССР и Съезду народных депутатов предстоит реализовать новые принципы в своей законотворческой деятельности. Наверняка предстоят новые дискуссии, ибо конкретизировать принципы всегда бывает непросто, но мне кажется, что предлагаемые платформой КПСС подходы дают перспективы для обеспечения суверенитета республик.

Это не значит, конечно, что в платформе нет положений, заслуживающих критики, что предлагаемые ею преобразования во всем последовательны. Многие специалисты в СССР считают, например, что со времени образования Союза ССР реальное положение народов существенно изменилось, и это давно уже поставило вопрос о пересмотре статуса ряда автономных республик, а может быть, их всех и уравнении автономий по статусу с пятнадцатью союзными республиками. Но в платформе этого нет. Не исключено, что данная точка зрения будет более детально обсуждена в Верховном Совете СССР и законодатели решатся уравнять статус автономных и союзных республик. Во всяком случае, специалисты сектора теории наций и национальных отношений Института марксизма-ленинизма при ЦК КПСС, где я работаю, не раз обсуждали эту проблему и считают претензии автономных республик на повышение своего статуса обоснованными.

Правда, нашей точки зрения придерживаются не все специалисты. Некоторые наши оппоненты полагают, что принципиально менять в структуре советской федерации ничего не надо, оставив все так, как есть, в том числе и ступени национальной иерархии в государственном строительстве. Добиваться равноправия народов надо, по их мнению, не ломкой структуры, а посредством реализации заложенных в ней возможностей, превращения замыслов в реальность, то есть действительного выполнения положений действующей Конституции СССР.

Предложение об уравнивании статуса республик критикуется и слева, со стороны тех, кто считает необходимым уравнять по статусу все национально-территориальные образования государства. Их сейчас в СССР 53, включая 15 союзных, 20 автономных республик, 8 автономных областей и 10 округов. Я все же думаю, что такой радикализм вряд ли своевременен. Он породит дополнительные проблемы, что может неблагоприятно отразиться на ходе реформ в других областях. Специалисты нашего института убеждены, что на данном этапе перестройки достаточно дать право всем национально-территориальным образованиям СССР, как субъектам федерации, право непосредственного обращения к правительству Союза при решении всех политических, экономических, социальных вопросов, имеющих принципиальное значение.

Проходящая сессия Верховного Совета СССР уделит внимание этому нашему предложению. Но реализация намеченных в партийной платформе, как и всех других, преобразований — длительный процесс, требующий не только времени, но и терпения, выдержки, умения не делать опрометчивых шагов. Можно понять общее стремление ускорить ход реформ, в том числе и в сфере межнациональных отношений. На Пленуме ЦК КПСС, кстати, прозвучали нотки недовольства тем, что центральные органы партии, правительство не всегда своевременно реагируют на перемены в общественной обстановке, не имеют надежных прогнозов развития ситуации, что приводит к отрицательным последствиям. Не стану спорить с критиками, наверное, они правы, но стоящие перед страной проблемы столь сложны и многообразны, что было бы чрезмерным ждать от правительства только безошибочных решений и действий.

**Георгий ТРАПЕЗНИКОВ, кандидат исторических наук. (АПН).**

## ФАКТЫ И ЦИФРЫ

### УНИКАЛЬНЫЙ БАНК ДАННЫХ

В нем содержатся сведения о более чем 7 миллионах достижений в таких приоритетных областях науки и техники, как электронизация народного хозяйства, комплексная автоматизация, атомная энергетика, новые материалы, технологии их производства и обработки, биотехнология. Этот огромный массив информации накоплен за 20 лет деятельности Международным центром научно-технической информации (МЦНТИ), созданным для обеспечения стран — членов СЭВ.

### ВОЗРОЖДЕНИЕ ОТЕЛЯ «САВОЙ»

Эта гостиница в исторически заповедной зоне центра Москвы отвечает самым строгим требованиям современного комфорта (по международным стандартам соответствует «четырехзвездочному» разряду). Своему возрождению она обязана советско-финляндскому предприятию «Инфаотель», которое было создано в 1987 году ВАО «Интурист» и акционерным обществом «Финнэйр». Причем партнеры сделали все возможное, чтобы сохранить внешний вид и интерьер ценного архитектурного памятника. «Савой» будет обслуживать главным образом иностранных бизнесменов. Здесь есть все необходимое для работы и отдыха.

### МЕЖДУНАРОДНЫЙ ЭКСПЕРИМЕНТ В ЗАПОЛЯРЬЕ

«Глубинная геология Балтийского щита» — тема совместных исследований, которые были проведены на Кольском полуострове. В эксперименте приняли участие ведущие геологи, геофизики и геохимики 14 стран, в том числе ФРГ, США, Финляндии, Великобритании, Канады. Он стал составной частью Межгосударственной программы исследований земной коры. По мнению руководителя советской делегации Феликса Митрофанова, директора Геологического института Кольского научного центра, синтез геолого-геофизической и геохимической информации, имеющейся в разных странах, и результаты эксперимента помогут создать модель глубинного строения не только Скандинавского полуострова, но и всей территории Балтийского кристаллического щита.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# ЦІ ЎНЯСЁМ СВАЮ ЛЕПТУ?

### ІНТЭРВ'Ю З ПІСЬМЕННІКАМ Барысам САЧАНКАМ



**— Барыс Іванавіч! Відаць, вы пагодзіцеся з той думкай, што сёння наша грамадства найглыбей хвалююць дзве небяспечныя тэндэнцыі: няспыннае зніжэнне сацыяльнага ўзроўню жыцця і крытычны стан нашай духоўнасці. Мы доўга цешылі сябе, а больш пускалі ружовы пыл у вочы ім, тым, што на Захадзе, прыгожай байкай пра самую чытаючую краіну, пра самую адукаваную, пра ўсё самае лепшае толькі ў нас, а як выйшла, то мы і чытаем мала, і ў кіно ходзім рэдка, і ў тэатры бываем раз на тры гады. Дык што ж робіцца з намі! І калі гэта пачалося!**

— Дакладна назваць год і дзень, калі такое пачалося, я, вядома, не магу, хоць пра небяспеку таго, што сёння маем, гаварылі многія. І ведаеце, калі? Яшчэ ў 1918 годзе. Напрыклад, М. Бярдзяеў, М. Горкі і іншыя. Рэвалюцыя ж не толькі разняволіла лепшыя сілы народа, дала ім небывалы штуршок і стымул для развіцця, але ўскаламуціла і «дно». І менавіта яно, «дно», сям-там дыктавала свае законы — нянавісць да інтэлігенцыі — «очкариков», да тых, хто лепш апранаўся, жыў. Не цвярозы чалавечы розум браў верх, а часта стыхія, эмоцыі. «Бесшабашная демагогия людей, «углубляющих» революцию, — пісаў у «Несвоечасовых думках» М. Горкі, — дает свои плоды, явно гибельные для наиболее сознательных и культурных представителй социальных интересов рабочего класса. Уже на фабриках и заводах постепенно начинается злая борьба чернорабочих с рабочими квалифицированными, чернорабочие начинают утверждать, что слесари, токари, литейщики и т. д. суть «буржуи». З горада гэтая барацьба перакінулася ў вёску. Раскулачванне, высылка тых, хто больш навукова, культурна вёў гаспадарку, прывялі да развалу вёскі. Потым былі страшныя 30-я гады, вайна, пасляваенная неўладкаванасць... М. Горкі ў тых самых «Несвоечасовых думках» пісаў: «Я не знаю ничего иного, что может спасти нашу страну от гибели, как культура». На жаль, яго голасу ў свой час не пачулі. І на культуру амаль не звярталі ўвагі. Накарміць людзей, забяспечыць іх жыллём, абараніць ад знешняга ворага, не даць расплadзіцца «гідры контррэвалюцыі» — на гэта ішло ўсё. Дый што было глядзець у нашых тэатрах і кінатэатрах?.. А якія кнігі выдавалі нашы выдавецтвы?.. Гадамі ж пад забаронай былі многія творы, а то нават і імёны Ф. Дастаеўскага, М. Ляскова, С. Ясеніна, М. Клюева, Г. Ахматавай, М. Булгакава, А. Платонава, Б. Пастэрнака...

**— Ці заўважылі вы такую сумную, на мой погляд, з'яву: чалавек, той новы чалавек, якога нарадзіла наша грамадства і якім мы так ганарыліся, у масе сваёй аказаўся звычайным спажыўцом культуры (а цяпер усё больш маскультуры)! Калі ён купляе білет у тэатр, то толькі, каб адпачыць, пабавіць час, а не задумацца над праблемамі, пастаўленымі ў спектаклі. Калі ён бярэ ў рукі кніжку, то зноў жа не дзеля таго, каб абцяжарваць сябе глыбокім роздумам над прачытаным. Магчыма, я занадта абагульняю, але і адмаўляць такую з'яву нельга...**

— Зноў спашлюся на М. Горкага, які папярэджваў: самае страшнае падмяніць інтэлігента паўінтэлігентам і лічыць яго за сапраўднага інтэлігента. І гэтае папярэджанне таксама не было пачута. Адсюль і тыя сумныя вынікі, якія маем сёння. Бездухоўнасць проста захліствае наша грамадства. Яна не толькі ў людзях «простых», як прывыклі мы часта называць ніжэйшыя слаі грамадства, а часта і ў вышэйшых колах, што надзвычай небяспечна. «Паўінтэлігент», «паўспецыяліст», «паўчалавек» запанаваў усюды. Ён не толькі «спажывец», ён дыктуе свае нормы жыцця, законы грамадству. Нават культуры—якой яна павінна быць! Так было пры Сталіне, так было пры Хрушчове, так было пры Брэжневе. Ды ў значнай ступені і цяпер. Уся надзея на перабудову, публічнасць, якія павінны многае паправіць, паставіць на сваё месца.

**— Чатыры гады перабудовы далі нашай краіне многа. І самае галоўнае, як мне здаецца, — шчырасць. Мы з вамі можам шчыра гаварыць пра [illegible] што нам баліць, узнімаць [illegible]лічна праблемы нацыянальнай культуры, стукацца з імі ў высокія дзверы і быць зразуметымі. Шчырасць, з якой выступаюць нашы пісьменнікі з трыбун і старонак друку, це[illegible] нас нязмерна. Але засмуча[illegible] іншае: дзе мастацкія творы, дастойныя нашага часу, як мы раней казалі! Чым вытлумачыць, што менавіта гэты час, час дэмакратызацыі і плюралізму думак, так неэфектыўна выкарыстоўваюць беларускія пісьменнікі!**

— Дазволю сабе не згадзіцца, што беларускія пісьменнікі «неэфектыўна выкарыстоўваюць час дэмакратызацыі і плюралізму думак». Кожны, хто сочыць за нашай літаратурай, за працай пісьменнікаў, не можа не бачыць, колькі паднята самых розных тэм, таго, пра што ўмоўчвалася, пра што раней не гаварылася, нават не ўспаміналася. Гэта і вельмі балючыя для Беларусі экалагічныя праблемы, і падзеі 30-х гадоў, і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, наогул, наша мінулае. А творы, што гадамі не друкаваліся! «Тутэйшыя» і вершы, паэмы Янкі Купалы, вершы і апавяданні Якуба Коласа, многія творы Гарэцкага, Мрыя, Калюгі, Геніюш... Вернуты ў літаратуру, занялі сваё месца і Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі, Казімір Сваяк... Ды і пра нашу эміграцыю пачалі пісаць праўду... А колькі сказана слоў у абарону роднай мовы, культуры! На першы план выйшла публіцыстыка, яна ніколі не была такой шчырай і цікавай, як цяпер. Што ж да мастацкіх твораў... У літаратуры бываюць перыяды, калі галоўнае не яны... Сёння якраз адзін з такіх перыядаў...

**— Ці ёсць, на вашу думку, у маладой генерацыі нашых пісьменнікаў, напрыклад, у «Тутэйшых», патэнцыял стаць духоўнымі лідэрамі нацыі!**

— Стаць духоўнымі лідэрамі нацыі — надзвычай высокая місія. Ці пад сілу яна аднаму чалавеку, асабліва ў наш час? Як кажуць, дай бог, каб знайшліся тыя, хто прадоўжыў бы пачатае нашымі вялікімі папярэднікамі — Ф. Скарынам, К. Каліноўскім, Ф. Багушэвічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам... Нам не хапае, ды і не хапала на працягу стагоддзяў такіх лідэраў... Што ж да «маладой генерацыі»... Сярод маладых ёсць тыя, хто нестандартна думае... Час пакажа, хто на што з іх здатны...

**— У маіх вачах, Барыс Іванавіч, вы адзін з самых радыкальных прыхільнікаў адраджэння роднай мовы. Свае погляды на гэту праблему вы выкладаеце як на грамадскім узроўні, так і на афіцыйным, дзяржаўным. Ваш пункт погляду на сённяшняе становішча з нашай мовай і ваша праграма яе адраджэння!**

— Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Я — аптыміст, упэўнены: беларуская мова жыла і будзе жыць. Гэта неацэнны скарб не аднаго нашага народа, а ўсіх народаў, усяго чалавецтва. І калі б мова знікла, гэта была б трагедыя. Страшная трагедыя народа: ён перастаў бы існаваць. Асабліва востра гэтую трагедыю адчулі б рускія і ўкраінцы, ды і палякі, іх мовы. Асмелюся сцвярджаць: такога не будзе. Мова наша жывая, карані яе глыбокія. І ў народзе, і ў пісьмовай літаратуры, і ў нашым мінулым. Беларуская мова сёння патрабуе дапамогі. Самай рознай, у тым ліку і з боку дзяржавы. Патрэбен закон, які не даў бы чыноўніку яе зневажаць, здекавацца, як гэта рабіў ён беспакарана гадамі. Сёння такі закон выпрацоўваецца. Гэта, можа быць, і не зусім дэмакратычная мера, але неабходная. Калі мы заносім у Чырвоную кнігу і аберагаем кожную раслінку, птушачку, казюрку, якія знікаюць, дык што казаць пра мову аднаго з вялікіх славянскіх народаў... Вядома, закон мала выпрацаваць, яго трэба яшчэ і прыняць, укараніць у жыццё. На гэта я таксама гляджу аптымістычна. Беларусы, мне здаецца, яго падтрымаюць. Ну, а рускія, украінцы, што жывуць на тэрыторыі нашай рэспублікі... Яны заўсёды прыходзілі нам на дапамогу, калі здаралася бяда. Не думаю, каб цяпер было інакш... А ў нас бяда — знікае ж мова, а, значыцца, знікае і народ... Прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей таксама не павінны аказваць супраціўлення, бо кожны з іх разумее, што гэта такое, калі народ траціць мову... Ды і закон наш, дакладней, пакуль што праект закона (а я з'яўляюся адным з яго сааўтараў) улічвае самыя розныя аспекты гэтага пытання і інтарэсы ўсіх, хто жыве ў Беларусі. Закон не панацэя, тым не менш ён многае ўрэгулюе, паправіць, накіруе ў патрэбнае русла.

**— Што можа зрабіць для нацыянальнага самаўсведамлення народа, для таго, каб беларус зразумеў, што без роднай мовы яму нельга жыць, як без паветра, што можа зрабіць дзеля гэтага БНФ «Адраджэнне»!**

— Нацыянальная самасвядомасць народа складваецца гадамі, нават стагоддзямі. На жаль, наша мінулае не заўсёды спрыяла беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Жыццё пад палякамі, якія даказвалі, што мы не народ і наша мова — не мова, потым далучэнне да Расіі «искони русских земель»... Мова наша стагоддзямі была пад забаронай, а, значыцца, не магла нармальна развівацца і функцыянаваць. Ды і гісторыю нашу па-свойму вытлумачвалі і палякі, і рускія... У галовы беларусам убівалася, што няма ніякага беларускага народа, няма беларускай мовы, не было ніколі ніякай беларускай дзяржавы... Нацыянальна-вызваленчы рух у нас быў слабы, част[illegible] меў падтрымкі ў свайго [illegible]ода, бо народ, выхаваны ў [illegible]льскім ці рускім духу, не разумеў сваіх кіраўнікоў і не падтрымліваў... Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя дала беларускаму народу дзяржаўнасць, а яго мове — роўнасць з усімі [illegible]мі. Але гэта працягвала[illegible] [illegible]ядоўга — Сталін і яго памагатыя завяваныя свабоды патапілі ў крыві. Аплявана была гісторыя, наша мінулае, наша літаратура, фактычна, усё... Запанавалі ідэі «скрещивания языков», «слияния наций»... Беларусь стала як бы пляцоўкай для розных сумнiцельных эксперыментаў, накшталт: хутчэй адмовіцеся ад мовы і ўсяго свайго, нацыянальнага, хутчэй прыйдзеце да камунізму...

Сёння становішча змянілася. І якраз да лепшага. Ёсць людзі, якія ўсвядомілі, што так, як было, не павінна быць далей. Пачуліся цвярозыя галасы ў абарону нашай мовы, нашай гісторыі, культуры, наогул, усяго свайго, што страчана ў імя «светлага будучага чалавецтва». З'явіліся нават пэўныя арганізацыі, у тым ліку і Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Хацелася б, каб патрыятычныя сілы дзейнічалі не разрознена, а аб'ядналі свае намаганні якраз у гэтым напрамку — падымалі нацыянальную самасвядомасць народа, адукоўвалі б яго, «просвещали»...

**— Пакуль што больш слоў і эмоцый наконт мовы, чым канкрэтных спраў. Хаця, будзем аб'ектыўнымі: першыя крокі ўжо ёсць. І гэтыя крокі зроблены нашымі афіцыйнымі ўстановамі. Што ж датычыцца нефармальных арганізацый, то тут пакуль адны патрабаванні. А вось каб самім закасаць рукавы... На мой погляд, трэба ісці ў народ і цярпліва займацца яго асветніцтвам. Мы ж пакуль толькі плодзім паперы...**

— Нефармальныя арганізацыі, у тым ліку і БНФ «Адраджэнне», пакуль што шукаюць сваё месца ў жыцці нашага грамадства. Многае ў іх не атрымліваецца. Але судзіць вельмі сурова іх не варта. Не трэба забываць: працуюць яны ў надзвычай складаных умовах. Іх не толькі не прызнаюць, але ўвесь час крытыкуюць, часта незаслужана. Самім жа ім выказацца ў друку не даюць. Таму ў многіх няма сваёй думкі пра гэтыя арганізацыі і іх мэты, а ёсць гатовае «клішэ» сродкаў масавай інфармацыі... Тым не менш, пэўнае ажыўленне ў грамадскае жыццё гэтыя арганізацыі ўнеслі. Ёсць у іх і несумненныя заслугі... Што ж да працы... У нас, як некаторыя кажуць, «страна Советов»... Усе «советуют», але працаваць не хочуць... Ды часта і не ўмеюць. Так, «трэба ісці ў народ і цярпліва займацца асветніцтвам». Але ж часы, калі хадзілі ў народ, мінуліся. Цяпер народ адукаваны, умее чытаць... І таму самую вялікую ношу «асветніцтва» павінны ўзяць на сябе друк, радыё і тэлебачанне. Вядома, і ў народ трэба ісці, гутарыць з ім, сустракацца... Вялікая надзея і на Таварыства беларускай мовы, «Экалагічны саюз Беларусі», Фонд культуры, іншыя арганізацыі, што ўзніклі ў нас у апошні час...

**— Барыс Іванавіч! Ваша стаўленне да таго пласта нацыянальнай культуры, які стварыла беларуская эміграцыя! Што мы маглі б узяць адтуль у наш агульны набытак! Ці можа мець нейкі ўплыў на экалогію беларускай культуры наша эміграцыя!**

— Мая пазіцыя па гэтым пытанні такая: усё каштоўнае, што створана нашай эміграцыяй, павінна быць прызнана і вернута народу. І яно, хоць і не так хутка, як хацелася б, вяртаецца. У нашых выданнях друкуюцца творы У. Клішэвіча, А. Салаўя, М. Сяднёва... Думаю, у бліжэйшыя гады з'явяцца і творы іншых паэтаў, празаікаў, вучоных, выйдуць іх кнігі. У Беларусі з вялікім поспехам прайшлі гастролі Данчыка (Багдана Андрусішына). Мяркуецца, наколькі я ведаю, наладзіць выстаўку карцін тых беларускіх мастакоў, што апынуліся ў свой час па сваёй і не па сваёй волі за мяжою... Ёсць і іншыя зрухі ў добры бок... «Ці можа мець нейкі ўплыў на экалогію беларускай культуры наша эміграцыя»? Вядома, можа... Але не вельмі, як мне здаецца, значны, бо беларуская эміграцыя — маларікая, дый, на жаль, у значнай ступені асіміляваная. Многія беларусы не прызнаюць сябе беларусамі, лічацца палякамі, рускімі... Нацыянальны нігілізм пранік у беларускае асяроддзе, дзе б яно ні было. І я не ведаю, калі мы ад яго пазбавімся... А трэба, бо інакш не станем паўнакроўным народам, не ўнясём сваёй лепты ў развіццё чалавецтва, людской цывілізацыі.

**Вёў інтэрв'ю Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

*ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ*

# КАЗАЧНЫ ТАЛЕНТ АЛЕНЫ АБРАЗЦОВАЙ

Спявачка рэдкага даравання, яна нібыта метэор уварвалася на оперную сцэну і пакарыла слухачоў многіх краін свету.

«Працаваць з Аленай Абразцовай — шчасце. Яна мае унікальны талент, казачны, нечуваны, з міфа. У ёй — натуральнасць і інтэлект. І ўсё гэта яна выказвае сваім голасам, цудоўным і дзіўным». Так пісаў пра салістку Вялікага тэатра СССР, лаўрэата многіх міжнародных конкурсаў А. Абразцову вядомы дырыжор Герберт фон Караян.

А вось меркаванне спявачкі Мантсерат Кабалье: «Я захапляюся талентам Абразцовай. І не толькі таму, што яе мецасапрана — самы цудоўны голас, які я чула. Яна спявае ад сэрца і прымушае мяне плакаць».

Чарговыя гастролі Алены Абразцовай — у Аргенціне, на сцэне сусветна вядомага тэатра «Калон». Напярэдадні ад'езду ў Буэнас-Айрэс спявачка сказала:

— Я вельмі люблю выступаць перад аргенцінскай публікай, якая літаральна ловіць кожнае музычнае імгненне, перажывае яго. Помню, як у час маіх мінулых гастролей у Буэнас-Айрэсе я спявала Кармэн. У зале стаяла поўная цішыня, гледачы слухалі стаіўшы дыханне. Мне здавалася нават, што я чула, як б'юцца іх сэрцы. Калі я скончыла арыю, публіка ўзарвалася такімі бурнымі апладысментамі, якіх я не чула ні ў адной краіне свету.

— Спецыялісты зусім заслужана далучаючы вас да тых артыстаў, якім невядомы адпачынак і спакой. Вы заўсёды працуеце, як гаворыцца, на ўсе сто працэнтаў, але нягледзячы на гэта, ніколі не бываеце задаволены сабой, нават у гадзіны трыумфу...

— Гэта так. Заўсёды працую з поўнай аддачай. Упэўнена, што так працаваць трэба пры любых умовах. Дасканаласць — паняцце адноснае. А на шанцаванне ў нашай прафесіі разлічваць небяспечна. Залог поспеху артыста — у яго адносінах да сваёй справы і глядацкай аўдыторыі, у працавітасці.

Я, напрыклад, займаюся кожны дзень, бо лічу, што спявак не павінен вакальна адпачываць. Эмацыянальна — так, вакальна — не. Але ў той жа час нельга замыкацца ў сваёй прафесіі. Трэба мець магчымасць агледзецца наўкол, перавесці дыханне, падумаць.

Бывае, я стамляюся... Але без тэатра, без музыкі не ўяўляю свайго існавання. Без іх проста пачынаю задыхацца. Мая работа для мяне як паветра.

— У вас, напэўна, ёсць свае любімыя партыі, оперы, кампазітары. Вы часта спяваеце з вядомымі вакалістамі — зоркамі сусветнай оперы.

— Мая самая любімая партыя — Марфа ў «Хаваншчыне» Мусаргскага. Калі я выконваю, мне здаецца, што ачышчэнне нейкае адбываецца. Люблю Амнерыс у «Аідзе», Шарлоту ў «Вертэры» і, вядома ж, Кармэн.

З кампазітараў — пакланяюся Чайкоўскаму, Вердзі, Пучыні...

Што тычыцца выканаўцаў, з якімі мне даводзілася працаваць, думаю, трэба адзначыць такіх майстроў, як Пласіда Дамінга, Лучана Павароці, Саерленд... Выступаць з імі — шчасце і вялікі гонар.

А яшчэ пра адну спявачку я б хацела сказаць асобна. Для мяне гэта было проста адкрыццё. Некалі ў Токіо, куды мяне запрасілі на гастролі разам з «Метрапалітэн-Опера», я пазнаёмілася з Апрыле Міло, і мне давялося спяваць з ёю ў «Трубадуры». Гэта выдатная спявачка. У яе чароўны голас — сапрана. Яна тонкі музыкант, фанатычна адданы мастацтву. Многа гадоў я не чула такога.

— Для вас спевы вышэй за ўсё, а як праходзіць ваш вольны час?

— У мяне яго практычна няма. Я ўвесь час нешта вучу. А чым больш вучыш, тым больш бачыш свае недахопы. Шмат чытаю, люблю Дастаеўскага. Вяртаюся да яго пастаянна, таму што ён перадае такія парывы душы, пра якія сёння забыліся... Сумленне, гонар, добрыя адносіны людзей адзін да аднаго.

Маё захапленне — займацца хатняй гаспадаркай: прымаць гасцей і гатаваць. Вельмі люблю прыроду — мне падабаецца хадзіць па грыбы і лавіць рыбу. Але ўсё гэта здараецца ў маім жыцці выключна рэдка.

Інтэрв'ю ўзяў
Пётр ГАЛЯНКОЎ.



Сустрэча з ансамблем «Юрачка» Баранавіцкага Дома культуры—заўсёды свята. У выкананні самадзейных артыстаў вясёлая «Лявоніха», «Чэшская полечка», закарпацкі танец «Чынадзіеўка» і многія іншыя народныя танцы заўсёды выклікаюць радасць у гледачоў. Больш дваццаці гадоў існуе ансамбль. Ён выступаў не толькі ў многіх кутках рэспублікі і ў Маскве, але і ў Польшчы, Чэхаславакіі, Ірландыі.

НА ЗДЫМКАХ: «Дзявочы карагод» (1, 2) у выкананні жаночай групы ансамбля; дваццаць гадоў танцуюць у ансамблі шліфоўшчык Дзмітрый САЎЧУК і яго жонка Зоя—старшы прадавец.

Фота Э. КАБЯКА.





*Вера ХАМЯНЮК нарадзілася ў 1927 годзе ў Мінску. Пасля сканчэння ў 1950 годзе Мінскага юрыдычнага інстытута доўгі час працавала ў органах пракуратуры. З 1964 года жыве ў Вільні. Зараз на пенсіі. З'яўляецца членам клуба аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» Літоўскага рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў.*

**Вера ХАМЯНЮК**

## КАЛЫХАНКА

**Спі, мой сынку, спі, маленькі,**
**Спі, на радасць падрастай.**
**Ты мой самы даражэнькі,**
**Самы любы, светлы май.**

**Промень сонечны ігрыва**
**Асвяціў твой мілы твар**
**І, як матчын зрок, рупліва**
**Саграе пяшчотай мар.**

**Можа будзеш ты вучоным,**
**А мо здатным спеваком**
**Ці мо лётчыкам, чырвоным**
**Памахаеш мне крылом.**

**Ты малы яшчэ, дзіцятка,**
**Але матчын знай наказ:**
**Ёсць Радзіма — наша матка,**
**Будзь ёй шчырым сотні раз.**

## УСПАМІНЫ

**Чаму цябе я памятаю,**
**Старонка родная мая!**
**Стаяў дамок нібыта з краю,**
**І рэчка ціхая цякла.**

**А там за долам і ракою**
**Шумеў, спяваў магутны бор,**
**Ён углядаўся старанoю**
**На той няведамы прастор.**

**Прастор ваколіцы, Радзімы,**
**Жыцця часіны і гады.**
**І як бывае, на хвіліны**
**Ўспаміны йзноў вядуць туды.**

**І чую г[illegible] дзесь нясецца —**
**Навокал, быццам як званы.**
**Куды, скажыце, мог падзецца**
**Пясняр, як промень малады!**

**Але тут [illegible]на і маркотна,**
**Бо песн[illegible]скі і бацькоў**
**Над тым прасторам так**
**журботна,**
**Як быццам хтосьці адышоў.**

**І плачуць вёскі і палеткі.**
**За што ж нямілыя мы вам!**
**Чаму дзяды, бацькі і дзеткі**
**Забылі лёс і мову там!**

## БЕЛАРУСКАЯ КРАСА

**Дзе цяпер ты, птушка-бусел,**
**Што над хатаю жыла!**
**Дзе звязала родны вузел**
**Альбо кола ля крыла!**

**Дзе шчаслівa ты гуляеш,**
**А мо з журбаю жывеш!**
**Буслянят сваіх караеш,**
**Каб ляцелі да нябес!**

**Па табе прастор сумуе —**
**Рэчка, ніва і лясы.**
**Ты — краса, якая йснуе**
**І жыве ў маёй душы.**

## БЕЛАРУСЬ — ЛІТВЕ

**Гэй, літоўская зямелька!**
**Чуеш ты мяне ці не!**
**Раскажу, як канапелька**
**У Беларусі расце.**

**Раскажу, як Нёман воды**
**Гоніць ў твой цудоўны край,**
**Як спяваюць карагоды**
**У беларускі месяц — май.**

**Як зязюля закукуе**
**У цёмным лесе, у бары,**
**Як спяваюць гулка, звонка**
**У Беларусі песняры.**

**А яшчэ табе скажу я,**
**Каб у дружбе моцнай жыць,**
**Хай нам шчасця не бракуе,**
**Маладосць няхай шуміць.**

## АДКРЫЦЦЁ

По аднаму, па двое або і невялічкім гуртом людзі спяшаліся да філармоніі, хаваючы ад халоднага дажджу букеты ўрачыстых гваздзікоў. Вечар быў і сапраўды ўрачысты: адкрыццё новага канцэртнага сезона. Як вядома, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі ёсць традыцыя адзначаць такую падзею сімфанічным канцэртам і ў праграму яго ўключаць твор беларускага аўтара. І сёлетняе адкрыццё быццам бы не пярэчыла традыцыі: іграў аркестр, гучала беларуская музыка... Але гэта быў канцэрт аўтарскі, якім культурная грамадскасць Мінска адзначала 60-годдзе народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Яўгена Глебава.

У зале сабраліся не толькі даўнія прыхільнікі таленту кампазітара і не толькі музыканты, а і маладыя слухачы, якія адкрывалі для сябе творчы свет Я. Глебава. Для іх, пэўна, быў адкрыццём і няпросты глебаўскі шлях у мастацтва, пра які казаў вядучы аўтарскага канцэрта У. Шаліхін, і сама музыка.

Зрэшты, «момант адкрыцця» перажылі нават дасведчаныя слухачы, калегі і вучні кампазітара, пачуўшы фрагменты з «Мары», першага яго балета. Адбылося і кранальнае знаёмства з юнымі салістамі: цымбалістам Міхасём Лявончыкам, скрыпачом Жэнем Асновічам, дамрысткай Вольгай Ількевіч, запяваламі Паўлам Сопатам і Таняй Ярмак — выканаўцамі араторыі «Падарожжа ў краіну дзяцінства» (на вершы П. Макаля). Адкрыццём сталася таксама імя дырыжора Валерыя Лявонава. Ён нядаўна ўзначаліў аркестр Дзяржтэлерадыё БССР, а ў гэты вечар дэбютаваў за пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра, паказаўшы сябе натхнёным і дакладным выканаўцам яркіх, маляўніча інструментаваных, можна сказаць, тэатралізаваных партытур Я. Глебава, з якіх «самаесамае» вянчала аўтарскі канцэрт. Гэта былі фрагменты з балета «Ціль Уленшпігель» і сыграная на «біс» п'еса «Мушкецёры».

Апладысментамі вітала зала кампазітара, аркестр, яго дырыжора і салістаў, артыстаў Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы, узорны хор «Сонейка» Палаца культуры Белсаўпрофа. І часта ў гэты вечар падыходзілі да сцэны людзі з кветкамі...

**С. ВЕТКА.**

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І БАЦЬКОЎ

У новым сезоне Дзяржаўны лялечны тэатр БССР запросіць на прэм'еры сваіх самых удзячных — самых маленькіх гледачоў на спектакль «Прыгоды Бураціна» паводле А. Талстога, а іх бацькоў — на «Буру» У. Шэкспіра. Усёй сям'ёй можна будзе паглядзець «Сымона-музыку» паводле Якуба Коласа. Рэжысёр усіх спектакляў А. Ляляўскі.

Тэатр юнага гледача ў хуткім часе пакажа спектаклі «Ганенне і забойства Жан-Поля Марата» П. Вайса і «Галасы травы» Т. Кэпета ў рэжысуры В. Глубокавай. У бліжэйшых планах ТЮГа — «Зімняя казка» У. Шэкспіра, ставіць якую запрошаны са Славакіі Е. Бяднарык, а таксама «Прыгоды Чыпаліна» паводле Д. Радары і спектакль паводле твораў Э. Гофмана.

# У ФОНД ДАПАМОГІ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

**На рахунак № 141713 у фонд будаўніцтва Музея беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху (Беларускага музея) у Гайнаўцы на Беласточчыне (ПНР) працягваюць паступаць добраахвотныя ўзносы ад грамадскіх і дзяржаўных арганізацый і ад асобных грамадзян БССР.**

**Паведамляем нашым чытачам прозвішчы чарговых ахвяравальнікаў.**

### ЖНІВЕНЬ

1. САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ БССР — 1 000 рублёў
2. МІЦЬКО М. В. (г. Маладзечна) — 30 рублёў
3. РЭСПУБЛІКАНСКАЕ АПТОВА-РОЗНІЧНАЕ АБ'ЯДНАННЕ КНІЖНАГА ГАНДЛЮ «БЕЛКНІГА» — 1 000 рублёў

### ВЕРАСЕНЬ

1. КАВАЛЕВІЧ Ігар Мікалаевіч (г. Чэбаксары Чувашскай АССР) — 15 рублёў
2. УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ АБЛВЫКАНКОМА (г. Гродна) — 400 рублёў

### КАСТРЫЧНІК

1. УПРАЎЛЕННЕ МІНСКАЙ ЕПАРХІІ — 3 000 рублёў
2. ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ» — 1 000 рублёў

**Беларускае таварыства «Радзіма» дзякуе ўсім, хто ахвяруе сродкі на будаўніцтва музея ў Гайнаўцы.**



## спорт



**Упершыню ў гісторыі баскетбола Мінск прыняў удзельнікаў вельмі прэстыжных еўрапейскіх спаборніцтваў на Кубак Ранкеці. У матчы першага круга, які адбыўся ў беларускай сталіцы, сустрэліся віцэ-чэмпіён СССР каманда «Гарызонт» і румынскі клуб «Воінта» з Бухарэста.**

**Перамогу атрымалі мінчанкі з лікам 69:51.**

**А вось у другой сустрэчы ў Румыніі мінчанкі ўступілі з лікам 73:78. Гэта, аднак, не перашкодзіла беларускім баскетбалісткам выйсці ў наступны круг спаборніцтваў. Вось такім удалым атрымаўся старт «Гарызонта» на міжнароднай арэне ў афіцыйных гульнях.**

**НА ЗДЫМКУ: востры момант гульні.**

**Фота Г. СЯМЁНАВА.**

* * *

Завяршыўся чэмпіянат Савецкага Саюза па футболу. Мінскія дынамаўцы занялі ў ім дзявятае месца. Затое падарвалі дублёры. Ім даcталіся залатыя медалі.

Беларускія аматары футбола сочаць у гэтыя дні і за чэмпіянатам... Італіі. За каманду «Ювентус» з Турына тут выступае мінчанін Сяргей Алейнікаў. У апошніх турах ён забіў рашаючыя мячы ў вароты «Джановы» і «Сампдорыі» (абедзве з Генуі) і заслужыў высокую ацэнку ў італьянскіх балельшчыкаў і спецыялістаў. «Ювентус» пасля гэтых перамог займае другое месца ў турнірнай табліцы.

Не ведае паражэнняў у апошнія гады зборная каманда СССР па гандболу. Вось і нядаўна яна выйграла ў Жэневе міжнародны турнір чатырох нацый. Спартсмены нашай краіны перамаглі гандбалістаў ГДР—28:24, Ісландыі—32:28 і Швейцарыі—28:19.

Касцяк зборнай СССР склалі мінчане А. Каршакевіч, А. Тучкін, Г. Свірыдзенка, К. Шараварaў і М. Якімовіч.

У Маскве прайшлі міжнародныя спаборніцтвы майстроў валана на прызы штотыднёвіка «Литературная Россия». Усе галоўныя ўзнагароды дасталіся савецкім спартсменам. Сярод іх былі і беларускія бадмінтаністы Віталь Шмакаў і Улада Чарняўская.

Абсалютны пераможца Кубка СССР па атлетызму Мікалай Грышанаў з Віцебска атрымаў персанальнае запрашэнне на буйны міжнародны турнір у Токіо. Потым беларускі асілак паедзе ў Парыж на чэмпіянат свету.

У Рызе завяршыўся міжнародны турнір па шашках на прыз Андрыса Андрэйкі. Мінчанін Анатоль Гантварг заняў тут другое месца.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# «ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ» РАДЗІВІЛАЎ

Нясвіж можна назваць беларускай Мекай скарбашукальнікаў. Тут на працягу больш чым паўтара стагоддзя шукаюць скарб, прытым усе ведаюць, які ён, і кожны ўпэўнены, што пашанцуе менавіта яму, але ніхто пакуль нічога не знайшоў...

Упершыню аб Нясвіжы летапісцы нагадваюць у сувязі з крывавымі падзеямі на рэчцы Калцы. Сярод князёў, загінуўшых на яе берагах у сечы з татарамі, называюць Юрыя Нясвіжскага. З больш позніх крыніц вядомыя імёны многіх уладароў горада. Але яго росквіт звязаны з дзейнасцю Радзівілаў — самага буйнога на тэрыторыі Беларусі магнацкага роду.

Стала ўжо хрэстаматыйнай гісторыя, як яны маглі дазволіць сабе ўлетку катацца на санях, запрэжаных мядзведзямі, пасыпаўшы дарогу соллю, іншыя дзівацтвы. Але трэба сказаць, што ў Нясвіжы дзейнічала і друкарня, у якой упершыню на тэрыторыі Беларусі былі надрукаваны кнігі на беларускай мове. Выпушчаны гэтыя кнігі Сымонам Будным. Будынак, у якім размяшчалася друкарня, захаваўся.

Варта ўспомніць і Урсулу Радзівіл, якая стварыла тут свой тэатр. Яна перакладала і ставіла на яго сцэне творы Мальера, п'есы, напісаныя самастойна. Пры тэатры дзейнічалі музычная, вакальная і нават балетная школы. Тэатр Урсулы быў вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, і ў Заходняй Еўропе.

Па заказу Мікалая Крыштафа Радзівіла, празванага Сіроткаю, італьянскім архітэктарам Янам Марыяй Бернардоні быў пабудаваны фарны касцёл — першы на тэрыторыі Беларусі помнік барока.

М. Радзівіл-Сіротка на месцы драўляных умацаванняў узвёў каменны замак. Архітэктарам гэтага замка быў таксама Ян Марыя Бернардоні. Дакладней, ён спраектаваў толькі першую частку замка. Потым замак дабудоўваўся, разбураўся (напрыклад, у пачатку XVIII стагоддзя Карл XII, шведскі кароль, загадаў знесці яго цалкам, захаваўшы толькі культавыя пабудовы), але яго зноў адбудоўвалі, перабудоўвалі. З цягам часу ён усё больш і больш ператвараўся ў палац.

Гэта быў сапраўдны музей. У залах — разьба па дрэву, адмысловая ляпніна, цудоўна выкананае мастацкае ліццё.

Міністр замежных спраў Расійскай імперыі А. Чартарыжскі пісаў: «У 18 залах (парадных. — **М. Б.**) толькі ўпрыгажэнняў сабг[illegible]ася на 5 альбо 10 мільёнаў дукатаў... Але няма нічога дар[illegible]ішага за калекцыю «Дванаццаць апосталаў». Каштую[illegible] яны столькі ж, колькі імператар Напалеон выдаткаваў на Егіпецкі паход».

Што гэта?! Яшчэ адно паданне? Не. Пра гэтых «апосталаў», зробленых са срэбра, не раз пісалі сучаснікі. Сярод іх — рускі князь Рапнін, царадворац і музыкант М. Агінскі. Вядома так[illegible]а, што гэтыя «апосталы» былі асвячоны ў Ватыкане.

[illegible]рыя іх знікнення і пошукаў не менш цікавая, чым гісторыя скарбу капітана Флінта з «Вострава скарбаў». Шкада толькі, што не знайшлося ў нас пакуль свайго Стывенсана. А зніклі «апосталы» ў 1812 годзе. Тагачасны ўладальнік Нясвіжскага замка, не без падстаў баючыся пакарання за падтрымку французаў і скупку нарабаваных імі ў Маскве каштоўнасцей, уцёк за мяжу. Яго аканом Адам (прозвішча так і засталося невядомым) быў расстраляны за забойства двух рускіх салдат, але было перахоплена яго пісьмо да гаспадара, дзе ён паведамляў, што схаваў «апосталаў» разам з архівам, сталовым срэбрам і іншымі багаццямі ў надзейным месцы. Сапраўды, пры вопісе маёмасці стала вядома, што «апосталы», архіў і шмат што іншае з багаццяў Радзівілаў адсутнічаюць. Ніхто са слуг не змог паказаць месца, дзе яны схаваны. На пошукі быў накіраваны атрад лейб-гвардзейцаў, але яны нічога не знайшлі.

Працягвалі гэтыя пошукі выхаванцы Кадэцкага корпуса, размешчанага ў замку пасля заканчэння Айчыннай вайны. Шукаў і Антоні Радзівіл, якому ў 70-х гадах XIX стагоддзя быў вернуты замак (як спадчына). У гады першай сусветнай вайны скарбы шукалі салдаты сапёрнага батальёна аўстра-венгерскай арміі, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны замак даследавала каманда нямецкіх сапёраў. З дапамогай найноўшых дасягненняў тэхнікі таго часу яны знайшлі тайнік са старажытнымі карцінамі, пласцінкі залацістай латуні з энцыклікамі Ватыкана, склад старажытнай зброі. Але «апосталаў» знайсці не ўдалося.

Пасля вайны ў замку размясціўся санаторый «Нясвіж». Абслугоўваючы персанал расказвае, што рэгулярна хто-небудзь з адпачываючых аваладвае сверб «залатой ліхаманкі», і ён пачынае шукаць скарбы.

Сёння ў Нясвіжы аднаўляецца першапачатковы выгляд парку. Прынята рашэнне аб перадачы палацавага комплексу Міністэрству культуры БССР. Тут вырашана з часам утварыць музей і карцінную галерэю.

...І хто ведае, а раптам падчас рэстаўрацыі каму-небудзь усміхнецца «апостал».

**М. БАГАДЗЯЖ,**
**гісторык.**


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

## НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1273